Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

Ня бойся!

№ 16 (135), СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА

**Цытата нумара:**

Найвялікшае мастацтва кіравання заключаецца ў тым, каб рабіць сваю ўладу незаўважнай.

*Жан Жак Руссо.*

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## УТРЫМАННЕ ЎЛАДЫ ГВАЛТАМ

**Мінуў год з гвалтоўных падзей 19 снежня 2010 году. Краіна пражыла год імклівага падзення жыццёвага ўзроўня абсалютнай большасці грамадзян. Міфу аб квітнеючай і моцнай Беларусі не верацт 80% нашых выбаршчыкаў. Мы расплачваемся жабрацтвам за гвалтоўнае ўтрыманне ўлады сілай у інтарэсах вузкага вышэйшага кола кіраўніцтва. Фактычна краіна апынулася закладнікам ўладных звышамбіцый аднаго чалавека. Сёння настаў час, каб рабіць высновы з мінулагодніх памылак.**

Гвалтоўныя дзеі 19 снежня зрабіў рэжым, каб спыніць мірны народны пратэст супраць фальсіфікацыі вынікаў выбарчай кампаніі. Спачатку быў атакаваны "невызначанай" групоўкай у камуфляжы кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў, якога збілі да непрытомнасці, а потым спецслужбы скралі з бальніцы хуткай дапамогі. Потым было справакавана біццё шкла ў Доме ўраду. І як падпал рэйстагу, гэта стала "падставай" для брутальнага разгону мірнай акцыі пратэсту, арыштаў дэманстрантаў, збіцця і арышту кандыдатаў. Беларусь паставіла сумны сусветны рэкорд па арыштах апазіцыйных кандыдатаў на вышэйшую пасаду.

Перакананы ў тым, што калі б наш кіраўнік набраў бы рэальную колькасць галасоў падтрымкі, то быў бы здольны на ўвесь свет засведчыць легітымнасць сваёй улады. Гэта ж робіць вельмі проста. Аспрэчвае апазіцыя вынікі падліку галасоў па дадзеным участку, то правядзіце адкрыты падлік галасоў з удзелам назіральніка. І адразу будзе бачна, хто падманьвае выбаршчыкаў – апазіцыя ці дзеючая ўлада. Беларускае заканадаўства не забараняе гэта рабіць, але прызначаныя вертыкаллю участковыя камісіі, тэрытарыяльныя камісіі, суды, пракуратура не ідуць на гэта. Дакладнее сказаць, што не ідуць на праўдзівы падлік старшыні камісій, бо менавіта яны без ўсякага рэальнага падліку, без меркавання членаў камісіі вызначаюць вынікі падліку.

Гэтых "герояў" часу добра запомніць беларуская гісторыя, бо менавіта іх рукамі фальсіфіцыруюцца вынікі падліку ды і часам сама працэдура народнага волевыяўлення. Апазіцыя ўсе апошнія гады заклікае рэжым змяніць працэдуру падліку галасоў, а таксама надаць рэальныя правы назіральнікам пры тым, што ў камісіях у абавязковым парадку павінны быць прадстаўнікі альтэрнатыўных кандыдатаў. Пры правядзенні такіх выбараў, а не іх імітацыі, легітымнасць прэзідэнта, дэпутатаў Палаты не будзе выклікаць пытанняў. Дзеля будучыні Беларусі існуючы рэжым абавязаны адмяніць імітацыю выбараў, а правесці іх транспарэнтна. І часу, і паўнамоцтваў у апошняй дыктатуры Еўропы дастаткова. Пытанне толькі за чэснасцю, сумленнасцю, адказнасцю перад будучыняй краіны "уладароў" краіны.

Гэта датычыцца і адносін да вызвалення палітычных вязняў: Міколы Статкевіча, Андрэя Саннікава – кандыдатаў у прэзідэнты, Зміцера Дашкевіча, Паўла Севярынца – дэмакратычных актывістаў, Алеся Бяляцкага – праваабаронцы, кандыдата на Нобелеўскую прэмію міра, а таксама іншых вязняў, якія ўтрымліваюцца ў турмах і вызвалення якіх патрабуюць міжнародныя арганізацыі. Між тым улады настойліва патрабуюць ад вязняў напісання пакаяльных лістоў на імя кіраўніка краіны з прызнаннем сваёй віны. Але палітычныя вязні не ідуць супраць свайго сумлення. Да кампаніі супраць вязняў далучылася і дзяржаўнае тэлебачанне, чым яшчэ ніжэй апусціла планку даверу да сябе, як кажуць "ніжэй плінтуса".

Вынікам утрымання ўлады гвалтам, фальсіфікацыяй стала падзенне жыццёвага ўзроўня народу ў 2-3 разы, а таксама прадажа "Белтрансгаза" Расіі. І гэта не канец, як падзення ўзроўня жыцця, так і распрадажы прадпрыемстваў. Расія мякка сцеле перад прэзідэнскімі выбарамі, але будзе жорстка дзейнічаць пасля іх. І нерэфармуемыя палітычная і эканамічная сістэмы краіны стануць неканкурэнтна здольны не толькі ў Еўропе, але і на постсавецкай прасторы.

Гэта вынік гвалтоўнага ўтрымання ўлады, ігнаравання працэдуры дэмакратычных выбараў. Выправіць сітуацыю можа толькі масавы мірны пратэст грамадзян супраць хлусні сістэмы у якой мы жывём, супраць карумпаванага кіравання, супраць катаванняў апанентаў рэжыма. Дзеля пратэсту не трэба баяцца, а неабходна гуртавацца. І ў нас ўсё атрымаецца.

**Леанід Гаравы.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## Пачатак дабраўпарадкавання Гагарына

**На мяжы восені і зімы ў мікрараёне Гагарына распачалі дабраўпарадкаванне пасля дваццацігадовага занядбання. Фактычна зрушылася праблема, пра якую не адзін год узгадвалі актывісты і жыхары мікрараёна.**

Напрыканцы лістапада дарожнікі паклалі асфальт ад вуліцы Чкалава да дома 40 па вул. Гагарына і адпаведна да гаражнага кааператыва. Асфальтавае пакрыццё закрыла праезд, які цяжка было лічыць дарогай у мікрараёне. Раней пакладзеныя каналізацыйныя люкі амаль апынуліся на паверхні асфальта. Але, як мінімум два з іх закаталі пад асфальт, што безумоўна створыць праблемы камунальнікам пры ўзнікненні аварыйных сітуацый у каналізацыйнай сістэме. Давядзецца разбіваць асфальт, каб дабрацца да люка.

Адначасова з пракладкай асфальта ў мікрараёне завяршылі асфальтаванне пешаходнай дарожкі каля раённай камунальнай службы. Наша публікацыя "Арыгінальны даўгабуд" паўплывала на завяршэнне гэтага даўгабуда, які глядзеўся недарэчным з сярэдзіны лета. Толькі на жаль з завяршэннем асфальтавання дарожкі завяршылася дабраўпарадкаванне мікрараёна. Між тым у аварыйным стане пакінуты праезд на вул. Чкалава, які не адпаведае стандартам утрымання дарог. Шматлікія аўтамабілісты, з'язджаючы з дарогі Гарадок-Камень на вул. Чкалава трапляюць на «франтавую» дарогу. Зробленая засыпка гравіем калдобін палепшыла яе стан, але не адняла асфальтавае пакрыццё. Мусіць да вясны спынена дабраўпарадкаванне мікрараёна, які па міласці мясцовага райвыканкама, выглядае занядбанай тэрыторыяй, дзе няма асфальтавага пакрыцця ля дамоў.

**Л. Антонаў.**

ГАРАДОЦКІ СЕРВІС

## ТАННЫЯ ПАСЛУГІ НАЧЛЕГА

**Гатэлі Гарадка і раёна вылучаюцца сярод іншых гасцініц рэгіёна перш за ўсё таннымі паслугамі начлега. Кошты начлега здзіўляюць у параўнанні з коштамі гатэляў Віцебска.**

Паслугі начлега на Гарадоччыне аказвае гатэль "Раўбічы" у Гарадку, а таксама гатэль "Пралеска" у г.п. Езярышча на мяжы з Расіяй. Існуе таксама турбаза "Лосвіда", дзе маюцца магчымасці начлега, але папярэдне з імі зтэлефанавацца праблематычна. Таксама праблематычна датэлефанавацца да гасцявых домікаў, якія маюцца ў глыбіні Гарадоцкага раёна. Пашанцуе мабыць толькі зранку, а потым ніхто не дасць гарантыю, што адказныя работнікі будуць ля тэлефона. Тым больш у зімовы перыяд, калі турыстычная актыўнасць запавольваецца.

Гарадоцкія гатэлі вылучаюцца перш за ўсё нізкімі коштамі пражывання. Самы дарагі нумар "люкс" у гатэлі "Раўбічы" каштуе ў снежні 111800 рублёў, а аднамесны нумар – 63500, двухмесны – 110 000, а пяцімесны толькі 203 500. Ва ўсіх нумарах маецца туалет, душ, радыё, а у больш камфортных і тэлевізар з лядоўняй. У гатэлі "Пралеска" маюца двухпакаёвыя нумары, пражыванне ў якіх каштуе 120 тысяч рублёў за суткі. Вялікам мінусам гатэляў з'яўляецца адсутнасць пунктаў харчавання, што выглядае нонсэнсам для любога еўрапейскага пункта начлега. Але гэта не лепшыя рэаліі беларускага правінцыйнага гатэльнага сэрвісу асабліва ва ўсходняй частцы Беларусі.

Зусім іншыя кошты на гатэльныя паслугі ў Віцебску. Найбольш народны гатэль "Ветразь" прадстаўляе начлег па коштах, якія ў два-тры разы вышэй гарадоцкіх. У "Ветразі" аднамесны нумар каштуе 160-200 тысяч рублёў, двухмесны ў аднапакаёвым нумары – 255-297 тысяч рублёў, двухкомнатны – 425-440 тысяч рублёў. Пры гатэлі маецца бар, рэстаран і іншыя паслугі. Кошты прэстыжных віцебскіх гатэляў "Эрідан" і "Лучоса" яшчэ вышэйшыя. У "Лучосе" яны пачынаюцца з 247 500 руб. за аднамесны нумар або 283 600 руб. за двухмесны нумар і даходзяць да кошта апартаментаў, зняць якія патрэбна сума ў 708 000 руб. або 936 000 руб за суткі.

Таму людзі з невялікімі прыбыткамі і якія не жадаюць плаціць значныя сумы за начлег у Віцебску спакойна маглі б мець начлег у Гарадку. Асабліва, калі б у "Раўбічах" прадстаўлялася магчымасць па харчаванню. Дзеля гэтага павінна быць адэкватная рэкламная і маркетынгавая палітыка, якая магчыма пры пэўнай самастойнасці гатэля "Раўбічы". Толькі гэтай самастойнасці гатэль пазбаўлены ўжо больш пяці гадоў. Але гэта, як кажуць, зусім іншая гісторыя.

**Л. Антонаў.**

## "ГАСЦІНЕЦ" у ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**

### Аб'ява

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны і рэгіёна зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**

**Стваральнікі інфармацыйнага партала запрашаюць неабыякавых грамадзян да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. У рэдакцыі магчыма бясплатна атрымаць календарыкі на 2012 год, год Дракона.**

ПРАДАЖА МАЁМАСЦІ

## ПРАДНАВАГОДНЯЕ ЖАДАННЕ ПРАДАЦЬ

**Фонд "Віцебскаблмаёмасць" імкнецца да канца года рэалізаваць з аукцыёна маёмасць, якая не мела пакупнікоў на працягу года. Да гэтай маёмасці адносяцца аддзяленні паштовай сувязі, ФАП, магазін з Гарадоччыны, якія ужо не раз выстаўляліся на аукцыён, але не знаходзілі пакупнікоў.**

Напрыканцы года на працягу трох тыдняў Фонд "Віцебскаблмаёмасць" кожны дзень планue праводзіць аукцыёны. Пры гэтым самая вялікая колькасць лотаў выстаўляецца ў апошні тыдзень сыходзячага года – 31, а ўсяго да канца года Фонд жадае рэалізаваць 70 лотаў. Пры гэтым самым вялікім аукцыёнам будзе 29 снежня, калі на продаж выстаўляецца 14 лотаў, з якіх чатыры з Гарадоччыны.

На працягу года не знаходзілася жадаючых набыць магазін чыгуначнікаў на Вакзальнай 40а, а таксама ФАП па Вакзальнай 53, не кажучы пра сельскія аддзяленні сувязі ў в. Прывальні і в. Азёркі. У выніку да чарговага аукцыёна арганізатары мусілі зменшыць першапачатковы кошт прапануемай маёмасці у 3-5 разоў у рублёвым эквіваленце. Кошт магазіна чыгуначнікаў зменшылі з 111,5 млн. руб да 32,6 млн. руб, кошт ФАПа з 65 млн.руб да 23 млн. руб.. За чыста сымвалічны кошт паштавікі жадаюць прадаць аддзяленні сувязі ў Прывальнях і Азёрках – адпаведна за 1,2 млн. руб. і 2,2 млн.руб.. Па цяперашнім курсе даляра гэта ўсяго 150-260 даляраў, а першапачатковая цана была ў даляравым эквіваленце 1900-3600 даляраў.

Пры гэтым дзяржава па ранейшаму жадае пакідаць за сабой права на зямлю, дзе знаходзяцца гэтыя будынкі, прадстаўляючы толькі права іх арэнды. На такія умовы ўсё менш жадаючых. Тым больш, што пераможца аукцыёна павінен атрымаць ва ўстаноўленым парадку дазвол райвыканкама на правядзенне праектна-пошукавых работ і распрацоўку будаўнічых праектаў на рэканструкцыю аб'ектаў, які не перавышае два гады. І гэта ва ўмовах жорсткага эканамічнага крызісу! Ды і кіраўнік краіны не раз заяўляе, што лібералізацыю трэба спыніць. Так што прыватнікам зусім не цікавы састарэлыя будынкі Гарадоччыны, зямлю пад якія давядзецца арэндаваць.

**Л. Антонаў.**

## АБ'ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.*
- *Рэдакцыя "Гасцінец" змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».*
- *Жадаючыя атрымаць у карыстанне беларускія кнігі, часопісы або іх набыць звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец»*
- *Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.*

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АБАРАНІЦЬ ПРАВА НА ЛІСТАВАННЕ

**Леанід Гаравы, актывіст праваабарончa-асветніцкай арганізацыі "Рух "За свабоду", накіраваў чарговую скаргу начальніку Шклоўскай выпраўленчай калоніі №17 наконт абмежавання яго права на ліставанне з кандыдатам у прэзідэнты Міколам Статкевічам, які ўтрымліваецца ў гэтай калоніі.**

Напачатку кастрычніка Леанід Гаравы, актывіст дэмакратычнага руху, накіраваў заказны ліст да М.В. Статкевіча, які будучы кандыдатам у прэзідэнты быў арыштаваны, а потым асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі і адбывае пакаранне ў шклоўскай калоніі. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, Еўрапейскі Звяз, ЗША лічаць М. Статкевіча і іншых фігурантаў справы 19 снежня палітычнымі вязнямі і патрабуюць іх неадкладнага вызвалення.

На працягу двух тыдняў дэмакратычны актывіст не атрымаў ніякага паведамлення, што яго ліст трапіў у калонію №17 г. Шклова. Гэта стала падставай для напісання скаргі да начальніка калоніі аб парушэнні права на ліставанне з палітычным вязнем М. Статкевічам.

У лістападзе Леанід Гаравы атрымаў ліст на расейскай мове ад начальніка калоніі С. Ярмаліцкага аб тым, што ў адпаведнасці з пн.143 Главы 25 Правілаў унутранага распарадку выпраўленчых калоній яго ліст да М.В. Статкевіча знішчаны. Але кіраўніцтва калоніі ніякім чынам не аргументавала такія дзеянні, а таксама не паведаміла аб парадку іх абскарджання.

Дзеля адстойвання свайго Леанід Гаравы з Міколай Статкевічам актывіст Руху "За свабоду!" ў чарговы раз звярнуўся ў выпраўленчую калонію №17. У накіраваным лісце Леанід Гаравы піша аб тым, што ў атрыманым адказе ўтрымліваецца толькі тэзіс аб неадпаведнасці яго ліста патрабаванню п.143 Главы 25 Правілаў унутранага распарадку выпраўленчых калоній. Але адказ не ўтрымлівае ніякіх аргументаў і дэманстрацый, што магло б рабіць гэтае рашэнне аргументаваным. Актывіст кажа пра тое, што выкарыстоўваваў толькі тыя словы і абароты, якія прысутнічаюць у інфармацыйнай прасторы Беларусі і супраць якіх органамі правапарадка не прыменяецца ніякіх абмежаванняў. Спадар Гаравы напісаў начальніку калоніі пра тое, што ліст не быў выкананы тайнапісам, шыфрам або жаргонам, а таксама ён пераканаены у тым, што ліст не меў ніякага цынічнага характару, накіраванага на здзяйсненне шкоды ахоўваемых законам праў дзяржаўных органаў і г.д.. Адначасова з гэтым актывіст растлумачыў чыноўніку пэўныя нормы выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы.

Ад начальніка калоніі Леанід Гаравы патрабуе прадстаўлення аргументаванага рашэння на сваю скаргу, а таксама тлумачэння парадка абскарджвання рашэння. Напрыканцы актывіст заклікае начальніка калоніі даць адказ на дзяржаўнай беларускай мове.

**Л. Антонаў.**

КРЫМІНАЛ

# ПАЎТОРНАЕ БРАКАНЬЕРСТВА

Работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету напачатку снежня пры аглядзе аўтамашыны на дарозе зафіксавалі прыкметы браканьерства. Адзін з пасажыраў ужо трапляў у поле зроку інспектараў 25 кастрычніка.

Менавіта 25 кастрычніка работнікамі Гарадоцкай міжрайінспекцыі паблізу в. Зарэчча Гарадоцкага раёна пры праверцы аўтамабіля «Мазда-6» выяўлена 16 сетак агульнай даўжынёй 1254 м і 96 асобін розных відаў рыбы агульнай вагой 57 кг. У выніку разгляду справы ўстаноўлена, што двое грамадзян здабылі рыбу забароненымі прыладамі лоўлі (стаўнымі сеткамі) на воз.Цiёста ў Гарадоцкім раёне. Следча-аператыўная група Гарадоцкага РАУС разглядае пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч. 2 арт.281 КК.

Паўторна аднаго з гэтых затрыманых грамадзян работнікі дзяржінспекцыі пабачылі на дарозе пры аглядзе аўтамабіля 2 снежня. У багажніку аўтамашыны былі выяўлены мяшкі з сеткамі і рыбай. Устаноўлена, што двое мужчын 1958 года нараджэння лавілі рыбу стаўнымі сеткамі. Канфіскавана 9 сетак агульнай даўжынёй 630 м і 67 асобнікаў розных відаў рыб агульнай вагой 31 кг. На месца выклікалася следча-аператыўная група Гарадоцкага РАУС, якая разглядае пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч.2 ст.281 КК.

**Т. Гаражанка.**

# ХЛОПЦЫ З ВУЛЫ ВЫРАШЫЛІ ПРАКАЦІЦЦА НА «ВАСЬМЁРЦЫ»

Раніцай 8 снежня 19-гадовы навучэнец Гарадоцкага каледжа з в. Новы Болецк не здолеў выехаць на вучобу, бо каля дома не аказалася яго машыны «ВАЗ-21086»

Навучэнец адразу паведаміў ў Гарадоцкі РАУС аб крадзяжы яго "васьмёркі"

Ужо праз гадзіну супрацоўнікі Гарадоцкай міліцыі выявілі выкрадзеную «васьмёрку» у кювеце каля вёскі Януйлава ў няспраўным стане. Злачынцы непраўамерна завалодалі аўтамабілем і зрабілі на ёй паездку ў накірунку Мяжы хутчэй за ўсё без мэты выкрадання.

Як паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама, папярэдне ўстаноўлена, што неправамерна завалодалі машынай двое ліцэістаў 16 і 17 гадоў, жыхары г.п. Вула, Бешанковіцкага раёна. Супраць іх ўзбуджана крымінальная справа па частцы 1 артыкула 214 КК «Выкраданне транспартнага сродку», якая прадугледжвае абмежаванне волі да пяці гадоў або яе пазбаўленне на той жа тэрмін.

**Т. Гаражанка.**

ЗДАРЭННЕ

# БУДАЎНІКІ ЗНАЙШЛІ ВЫБУХОЎКУ

**Каля чыгуначных шляхоў у Гарадоцкім раёне будаўнікі выявілі выбухоўку. А спецыялісты потым знайшлі яшчэ чатыры трацілавыя шашкі.**

6 снежаня побач з чыгуначным палатном паблізу вёскі Мехавое Гарадоцкага раёна работнікі будаўніча-мантажнага цягніка пры земляных работах знайшлі трацілавую шашку.

Група размініравання, якая прыбыла на месца здарэння, выявілі яшчэ чатыры трацілавыя шашкі і ўзрывальнік. Як паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама выбуховыя рэчывы адносяцца да перыяду Другой сусветнай вайны. Яны канфіскаваныя і ўтылізаваныя. Затрымкі цягнікоў не было.

**Т. Гаражанка.**

СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Прагрэс з кожным стартам

**Настасся Дубарэзава на першым этапе Кубка свету па біятлону сярод жанчын падымалася ўсё вышэй у выніковых пратаколах. Нагадаем, што ў мінулым годзе наша землячка ўпершыню стартавала ў біятлонных гонках на Кубак свету і толькі на апошнім этапе атрымала ачко ў залік.**

Першы этап Кубка свету для біятланістаў стартаваў у швецкім горадзе Эстэнсундзе 30 лістапада гонкай мужчын, а ўжо 1 снежня беларуска Дар'я Домрачава перамагала ў першай біятлоннай гонцы. Астатнія беларускі былі далёка ад прызавых месцаў, дапусціўшы шмат промахаў на агнявых рубяжах. Наша Настасся Дубарэзава заняла 58-е месца, дапусціўшы восемь промахаў і паказала трэцці вынік у камандзе.

3 снежня адбылася спрінтэрскай гонка на дыстанцыі 7,5 км, у якой перамагла немка Магдалена Нойнэр, якая на 0,2 секунды апярэдзіла Тору Бергер са Швецыі. Трэццяе месца ў фінкі Кайсы Макарайнен. Наша Дар'я Домрачава дапусціла толькі адзін промах і заняла пятае месца. Лепшы вынік за ёй сярод беларусак паказала Настасся Дубарэзава, якая дапусціўшы чатыры промахі заняла 42 месца. Разам з ёй права ўдзельнічаць у гонцы праследавання заваявала Надзея Скардзіна, якая фінішавала 57-й таксама з чатырма промахамі.

4 снежня адбылася апошняя гонка першага этапу па біятлону ў жанчын – праследаванне на дыстанцыі 10 км. Біятланісткі стартавалі адпаведна занятых месцаў у спрынтарскай гонцы. Барацьба за перамогу вялася сярод удзельніц, што былі на п'едэстале ў спрынце. Больш моцнымі на гэты раз аказаліся нервы і вытрамка ў нарвежкі Торы Бергер, якая дапусціла толькі адзін промах і фінішавала ў гордым адзіноцтве. Толькі праз 33,2 секунды фінішавала фінка Кайса Макарайнен. На трэцяе месца апусцілася Магдалена Нойнер, якую мела шанец абыйсці украінка Валянціна Семярэнка, але яна дапусціла промах на апошнім рубяжы.

Нашу Дарью Домрачаву падвяла кепская стральба, у якой яна дапусціла чатыры промахі, што не дазволіла ёй увайсці у дзесятку мацнейшых і адкінула яе на 16-е месца. Настасся Дубарэзава ж паказала лепшы для сябе вынік у гонцы праследавання. Па-першае, яна допусціла толькі тры промахі на першых трох агнявых рубяжах і закрыла ўсе мішэні на чацвёртым рубяжы. Таксама Настасся паказала добра лыжны ход і ў выніку паднялася з 42-га месца на 33-е. Дубарэзавай не хапіла трох месцаў для атрымання заліковых ачкоў на Кубку свету. Лепшы вынік для сябе паказала і Надзея Скардзіна, якая паднялася на 42-е месца. Зараз у зборнай фактычна застаецца пытанне чацвёртай біятланісткі для ўдалага стварэння эстафетнай каманды. Астатнія беларускія біятланісткі пакуль далёкі ад лепшай формы: або дапускаюць шмат промахаў або бягуць павольна.

**Л. Антонаў.**

# ДОМРАЧАВА ПАДЦВЕРДЗІЛА ЛІДЭРСКІ ПАТЭНЦЫЯЛ

У аўстрыйскім Хохфільцене Дар'я Домрачава ўвайшла ў тройку лідэраў Кубку свету па біятлону. Наша землячка Настасся Дубарэзава рэабіліціравала сябе ў эстафеце.

У аўстрыйскім Хохфільцене адбыўся другі этап Кубка свету па біятлону. Зноў пасяхова выступіла зорка беларускага біятлону Дар'я Домрачава, якая перамагла ў гонцы праследавання на другі дзень спаборніцтваў. Пры гэтым перамагла ў вельмі упартай барацьбе на самым фінішу, калі пакінула за спіной расіянку Вольгу Зайцаву і немку Магдалену Нойнер. Перавага нашай Дар'і склала толькі 0,3 і 3, 1 секунды над саперніцамі. Трэба нагадаць, што Домрачава стартавала з пятай пазіцыі пасля вынікаў спрынтарскай гонкі.

Напружанай і дынамічнай атрымался і жаночая эстафета, якая упершыню праводзілася ў гэтым сезоне. Толькі на фінішы чацвёртага этапу нарвежкі пераканалі ўсіх у сваёй перамозе, а на працягу усёй эстафеты лідэрства пераходзіла ад адной зборнай да другой. Другое месца у францужанак, а трэццяе ў расіянак. Беларуская каманда заняла ганаровае пятае месца, апярадзіўшы зборныя Германіі, Фінляндыі, Украіны і г.д.. Гэта месца атрымана дзякуючы бліскучай гонцы на чацвёртым этапе Дар'і Домрачавай, якая стартавала з 11-й пазіцыі за лідэрам сезону Магдаленай Нойнер. Але на гэты раз майстэрства Дар'і Домрачавай аказалася вышэйшым, чым у немкі, якую яна на фінішы апярадзіла амаль на 15 секунд.

Значны ўнёсак у пасляховую гонку ўнесла Настасся Дубарэзава, якая стартавала на трэццім этапе з 13-й пазіцыі, атрымаўшы эстафету ад Надзеі Скардзіны і фінішавала адразу за немкай Цінай Бахман. Упершыню на гэтым этапе ў Настассі Дубарэзавай атрымалася стральба, калі яна адразу закрыла пяць мішэняў на "лёжке" і выкарыстала дадаткова толькі два патрона на стойцы. Раней у спрынце і гонцы праследаванне наша зямлячка прамазала 9 разоў, не пакінуўшы сабе шанцаў на заліковыя месцы, апынуўшыся па выніках гонкі праследавання на прадапошнім месцы.

Па выніках двух этапаў Кубка свету лідэрства ў жанчын замацавалася за Магдаленай Нойнер, якая мае 264 ачкі, на другім месцы фінка Кайра Макарайнен з 229 ачкамі, а на трэццім наша Дар'я Домрачава, якая саступае фінке толькі чатыры ачкі, але апераджае нарвежку Тору Бергер на 43 ачкі. Па выніках аўстрыйскага этапу заліковыя ачкі з'явіліся і ў Надзеі Скардзіны – 12, а таксама ў Настассі Дубарэзавай – 8.

Наступны этап зноў адбудзецца ў Хохфільцене, бо ў французкім Анэсі, дзе планаваўся чарговы этап Кубку, няма снегу. З 15 па 18 снежня зноў адбудуцца спрынтарскія гонкі і гонкі праследавання, а потым адбудзецца смешаная эстафета. Пасля трэццяга этапу ў біятланістаў настануць калядныя вакацыі да 4 студзеня.

**Л. Антонаў.**

УСХОДНІ СУСЕД

# ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА РАСЕІ МОЖА ЗАМАРОЗІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ

ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА З БОКУ КРАМЛЯ АДСОЎВАЕ РЫНКАВЫЯ РЭФОРМЫ Ў БЕЛАРУСІ І СТАВІЦЬ КРАІНУ Ў ДАЎГАВУЮ ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД ВЯЛІКАЙ УСХОДНЯЙ СУСЕДКІ. ДА ТАКОЙ ВЫСНОВЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ АНАЛІТЫКІ, КАМЕНТУЮЧЫ ЗАЯВЫ РАСЕЙСКАГА АМБАСАДАРА АЛЯКСАНДРА СУРЫКАВА АБ СЯМІ МІЛЬЯРДЫ ДАЛЯРАЎ, ЯКІЯ Ў БЛІЖЭЙШЫ ГОД АТРЫМАЕ БЕЛАРУСЬ ПА ДОБРАЙ ВОЛІ МАСКВЫ.

Пачатак ужо пакладзена - 1 снежня Мінск атрымаў 2,5 млрд. даляраў, пералічаных «Газпрамам» за куплю другой паловы акцый ААТ «Белтрансгаз». Згодна з заявах расейскага амбасадара на прэс-канферэнцыі ў Мінску 30 лістапада, да канца гэтага года Беларусь павінна атрымаць 1 млрд. даляраў крэдыту расейскага «Ашчадбанка» (фармальна грошы прызначаныя для ААТ «Беларуськалій») і 440 млн. долараў другога траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС .

У 2012 годзе фінансавая падтрымка будзе складацца з 800 млн. даляраў трэцяга траншу крэдыту па лініі ЕўрАзЭС і прыкладна 0,5 млрд. даляраў першага транша экспартнага дзяржкрэдыту на будаўніцтва Астравецкай АЭС. Акрамя таго, каля 2 млрд. даляраў Беларусь зможа зэканоміць дзякуючы зніжэнню кошту на расейскі газ. Такім чынам, падагульніў Сурыкаў, агульны памер падтрымкі ў 2011-2012 гадах чакаецца на ўзроўні 7,3 млрд. даляраў. «Гэта добрая падтрымка, якая складае каля 25% ВУП Беларусі», - падкрэсліў пасол.

Варта адзначыць, што прыкладна столькі ж, парадку 7 млрд. даляраў, беларускія ўлады разлічвалі атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду, куды звярнуліся па дапамогу ў канцы мая бягучага года.

З улікам рэкамендацый экспертаў МВФ ўрад распрацавала беспрэцэдэнтную па сваёй рэфармісцкай сутнасці праграму развіцця эканомікі на 2012 год. Адобрый бы яе кіраўнік дзяржавы - будучы год мог бы стаць сапраўды пераломным для беларускай эканомікі. Між тым да канца года фонд не плануе праводзіць перамовы па прадастаўленню чарговага крэдыту Беларусі, заявіла пастаянны прадстаўнік МВФ у Мінску Наталля Калядзіна. Аднак цуду не адбылося.

Праект макраэканамічнага прагнозу на 2012 год Аляксандр Лукашэнка забракаваў, абвінавадзіў міністраў у адарванасці ад патрэб народа і запатрабаваў выканання праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця, ухваленай год таму Усебеларускім народным сходам.

Тое, што перамоўны працэс з МВФ згорнуты на нявызначаны тэрмін, - дрэнны знак для беларускай эканомікі, лічыць былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Па-першае, МВФ дае крэдыты на вельмі выгадных умовах. Па-другое - такія крэдыты даюцца пад праграмы рэформаў, якія спрыяюць аздараўленню эканомікі », - адзначыў Багданкевіч у каментары для БелаПАН. І, што не менш важна, падкрэсліў эксперт, «крэдытнае супрацоўніцтва з МВФ дае інвестарам з цывілізаваных дзяржаў станоўчую інфармацыю». «Гэта своеасаблівая гарантыя таго, што ў краіне, якая атрымала крэдыт, сапраўды праводзяцца рэформы, намеціліся ўстойлівыя станоўчыя тэндэнцыі», - кажа Багданкевіч.

Фінансавая ж падтрымка з боку Расеі небяспечная тым, што, па вялікім рахунку, залежыць не ад эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў, а ад інтарэсаў расейскага боку. Галоўнай умовай пры гэтым называлася прыватызацыя беларускіх дзяржактываў на суму 7,5 млрд. даляраў на працягу трох гадоў. Продаж прадпрыемстваў, тлумачылі ў Маскве, - адзін са спосабаў атрымаць сродкі для паляпшэння аплатнага балансу. Улетку гэтага года тагачасны віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын прыгразіў Беларусі тым, што ўмовы выдачы крэдыту ЕўрАзЭС могуць змяніцца, калі беларускі бок будзе працягваць эмісійных палітыку і практыкаваць іншыя антырынкавыя меры.

«Расея наўрад ці зацікаўлена ў нейкім адмысловым поспеху структурных рэформаў у Беларусі. Расейцаў па вялікім рахунку і так усё задавальняе, яны выдатна ўмеюць працаваць у такіх палітыка-эканамічных умовах », - лічыць эканаміст Сяргей Чалы. А вось МВФ, дадаў ён, «не з'яўляецца суб'ектам ні палітыкі, ні эканомікі, а таксама не адстойвае геапалітычныя інтарэсы альбо інтарэсы якіх-то бізнэс-структур». Таму, мяркуе Чалы, «папракнуць у чымнебудзь МВФ нельга, у той час як у адносінах з Расіяй такога роду падазрэнні абавязкова прысутнічаюць».

У сваю чаргу, палітолаг Валерый Карбалевіч зазначае: «Расейская дапамогу адсоўвае на нявызначаны тэрмін рынкавыя рэформы ў Беларусі і умацоўвае цяперашнюю эканамічную мадэль. Да рэфармаванні падахвочвае вострая неабходнасць. Рэформы пачынаюцца тады, калі канчаюцца грошы. Атрымаўшы расейскую дапамогу, з рынкавымі пераўтварэннямі можна і пачакаць ».

Акрамя таго, атрымліваючы з Масквы мільярдныя даляравыя крэдыты, Беларусь, акрамя энергетычнай залежнасці ад Расіі, трапляе яшчэ і ў залежнасць пазыковую. Між тым парог эканамічнай бяспекі Беларусь ужо пераступіла. Па дадзеных Міністэрства фінансаў, на 1 лістапада знешні дзяржаўны доўг склаў 12,01 млрд. даляраў, павялічыўшыся з пачатку года на 24%. Валавы ж знешні доўг Беларусі (ён уключае ў сябе доўг органаў дзяржаўнага кіравання, грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі.) ужо на 1 ліпеня гэтага года дасягнуў 33,1 млрд. даляраў.

**Ірына Леўшына, naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ЯК ДЗЯРЖАВА ЭКАНОМІЦЬ НА ЗДАРОЎЕ І АДУКАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ

У ПРАЦЭНТАХ ДА ВАЛАВОГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ БЕЛАРУСЬ ТРАЦІЦЬ НА АДУКАЦЫЮ І АХОВУ ЗДАРОЎЯ МЕНШ РАЗВІТЫХ КРАІН З РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКАЙ. ДЫ І СЯРОД КРАІН СНД ПА ГЭТЫХ ПАКАЗЧЫКАХ ЗУСІМ НЕ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ.

Дзе гатовыя марнавацца на адукаваных грамадзян

Па дадзеных даведніка Белстата «Беларусь і іншыя краіны», у 2009 годзе наша краіна выдаткавала з кансалідаванага бюджэту на адукацыю 4,9% ВУП. А ў 2005 годзе, напрыклад, доля выдаткаў у кансалідаваным бюджэце складала 6,2% ВУП, але затым паступова зніжалася. Белстат ў спецыяльнай зноска паказаў дадзеныя за 2010 год - выдаткі кансалідаванага бюджэту склалі ўжо 5,1% ВУП. Зрэшты, сакрэт павелічэння выдаткаў у мінулым годзе ўсім добра вядомы - неабходна было забяспечыць вырашальны рост заробатнай платы настаўнікаў перад выбарамі.

Але ні паказчык 2009 года, ні нават 2010-га, які адпавядае паказчыку за 2008 год для Беларусі, не з'яўляецца самым высокім сярод краін СНД. Беларусь у апошнія гады стала абыходзіць Малдова па ўзроўні выдаткаў на адукацыю (9,6% у 2009 годзе і 8,2% у 2008), а таксама Кіргізія (5,9% у 2008 годзе і 6,5% у 2007 годзе).

Што ж тычыцца астатніх краін свету (дадзеныя па іх прыводзяцца толькі за 2007 год), то для развітых краін характэрным з'яўляецца ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю, які перавышае 5% ВУП. Так, па 5,5% да ВУП расходуюць на адукацыю з кансалідаванага бюджэту Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія. Пры гэтым значная колькасць найбуйнейшых і самых прэстыжных ВНУ ў гэтых краінах з'яўляюцца прыватнымі. Так што бюджэт калі і траціць на іх свае сродкі, то адавочна ў нязначнай колькасці. Да таго ж, вышэйшая адукацыя з'яўляецца фармальна платнай (ёсць, праўда, гранты, стыпендыі, крэдыты з растэрміноўкай на вялікі перыяд). Хутчэй за ўсё, асноўныя выдаткі ў гэтых краінах ідуць на сярэднюю адукацыю.

Францыя з фармальна бясплатнай вышэйшай адукацыяй траціць з бюджэту 5,6% ВУП. Германія менш - 4,5%. Самы высокі ўзровень бюджэтных выдаткаў на адукацыю сярод еўрапейскіх краін - у Даніі (7,8%). Ледзь менш - 7,4% - марнуе Ісландыя. Даволі высокі ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю ў Скандынаўскіх краінах - Нарвегія - 6,8%, Швецыя - 6,6%.

Каму патрэбен здаровы электарат

Але калі выдаткі беларускага бюджэту на адукацыю яшчэ як-то ўкладваюцца ў параметры іншых краін, то з выдаткамі на ахову здароўя справы ідуць горш. У 2009 годзе расходы на ахову здароўя ў Беларусі склалі 4,7% ВУП, зменшыўшыся з 5,9% у 2000 годзе. У 2009 годзе сярод краін СНД па гэтаму паказчыку мы былі трэцімі з канца і дзялілі гэтае месца з Арменіяй (таксама 4,7%) Ніжэй выдаткі на ахову здароўя былі ў Туркменістане (2,3%) і Казахстане (4,5%). Больш за ўсіх марнуюць зноў-такі Малдова - 11,9% ВУП, Украіна - 7%, Расія - 5,4%.

Узровень расходаў на ахову здароўя для многіх буйных краін еўрапейскага кантынента перавышае 11% ВУП. Да іх ставяцца Германія, Францыя, Аўстрыя, Швейцарыя, Данія, Бельгія, і нават Партугаліяй. Больш за 10% - Нідэрланды, Швецыя, Грэцыя.

Але ў сусветным маштабе іх абыходзіць Злучаныя Штаты. Тут у 2009 годзе выдаткавана на ахову здароўя 16,2% ВУП. На «сацыяльныя выплаты» у 2009 годзе Штаты патрацілі 43,9% выдаткаў кансалідаванага бюджэту. Беларускі бюджэт - 30% сваіх выдаткаў. І па дадзеным паказчыку абыходзіць іншыя краіны СНД. Праўда, у Малдове, Украіне і Расіі высокая ўдзельная вага «датацый» у бюджэтных выдатках, у адрозненне ад Беларусі.

Аднак і Беларусь, і ЗША сваімі сацыяльнымі марнаваннямі «б'юць» некаторыя еўрапейскія краіны - Германія на сацыяльныя выплаты «транжырыць» 55,9% бюджэтных расходаў, Люксембург - 51,1%, Аўстрыя - 49%.

**Ірына Арлова, naviny.by**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ БУДЗЕ ДЫЯЛОГУ— НЕ БУДЗЕ БЕЛАРУСІ

АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ МЯРКУЕ, ШТО НЕ САНКЦЫІ, А ДЫЯЛОГ У СВОЙ ЧАС СТАЎ ВЫРАШАЛЬНЫМ У ПЫТАННІ ВЫХАДУ З ТУРМАЎ ПАЛІТВЯЗНЯЎ.

У Варшаве прайшла традыцыйная канферэнцыя «Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты», што ладзіцца пры Інстытуце грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта імя Лазарскага. На ёй меў выступ лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Палітык сканцэнтраваўся ў прамове на пытанні, хто выйграе Беларусь у будучыні? «Я веру, што мы выйграем. Мы вернемся туды, адкуль паходзім», — адзначыў Мілінкевіч, маючы на ўвазе Еўропу.

Па словах Мілінкевіча, нават тыя невялікія саступкі, на якія ішла ўлада падчас «лібералізацыі» адыгрывалі важную ролю на будучыні. Галоўнай памылкай Еўропы ён называе адсутнасць дарожнай карты ў адносінах ЕС і Беларусі. «Павінны былі быць канкрэтныя крокі з боку ўладаў, на якія мусіць адказваць Еўрасаюз. Лукашэнка ж нічога не рабіў, а Еўропа чакала. Я праціўнік таго, каб Лукашэнку давалі грошы. Гэтыя грошы пойдуць на рэжым. Дыялог павінен узнавіцца толькі пасля вызвалення палітвязняў. Калі хочаце, не будзе дыялогу — не будзе Беларусі», — мяркуе Мілінкевіч.

Палітык называе праект Еўразійскага саюза «мэтай жыцця Пуціна». «Берлінскі мур», што сёння існуе паміж Беларуссю і Еўропай, толькі на карысць Расіі. Я амаль упэўнены, што пасля абрання Пуціна прэзідэнтам Расія паспрабуе замяніць Лукашэнку на больш лаяльнага і прадказальнага чалавека, які будзе здаваць эканоміку і, не дай Бог, увядзе расійскі рубель».

Мілінкевіч лічыць, што ў 2008 якраз палітыка дыялогу, а не санкцый прывяла да вызвалення палітвязняў. «Дыялог вызваліў вязняў, а не амерыканскія санкцыі. Санкцыі штурхаюць нас да Расіі. Дыялог значна больш эфектыўны».

Была закранутая і тэма аб'яднання апазіцыі, якая нярэдка ставіцца на Захадзе. «Я за аб'яднанне. Але нават польскай «Салідарнасці» было лягчэй, бо ўсе ад самых левых да самых правых былі за аддаленне Польшчы ад Расіі і набліжэнне да Еўропы. У нас жа нават сярод апазіцыі ёсць сілы, што выступаюць за інтэграцыю з Расіяй і добрасуседскія дачыненні з Еўропай. Я і мае прыхільнікі за інтэграцыю з Еўропай і добрасуседства з Расіяй».

**Зміцер Панкавец, "Наша Ніва".**

ПАРАЎНАЙЦЕ!

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

Многотысячная акция протеста против нечестных выборов прошла в Москве. Как сказал известный писатель Борис Акунин, такой Москву мы не видели с 1991 года. Десятки тысяч человек, потратив свой законный выходной, в холодную декабрьскую погоду вышли на улицы российской столицы, чтобы потребовать честных выборов. Милиционеры говорят, что протестующих было 25 тысяч, журналисты оценивают акцию в 50–60 тысяч человек, организаторы мероприятия говорят, что пришли почти сто тысяч… «Народная Воля» решила указать на пять главных отличий акций оппозиции в Москве и Минске.

**1.Акция в Москве была санкционированной.**

Несмотря на то что и Конституция Беларуси, и Конституция России гарантируют гражданам одно и то же право на свободу собраний и митингов, реализовать его в Беларуси практически невозможно. Потому что у нас введен разрешительный принцип проведения массовых акций, то есть власти должны каждое такое мероприятие разрешить. А они, как правило, этого не делают. Например, ни одна из заявок на проведение пикетов 10 декабря, в День прав человека (!), белорусскими властями не была удовлетворена.

**(Продолжение на стр. 4)**

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

**(Окончание. Начало на стр. 3)**

И это в День прав человека! Хотя Конституцию вроде бы никто не отменял и гарант Конституции не отказался исполнять свои главные обязанности по защите прав человека.

В России ситуация с акциями протеста принципиально иная. Для проведения акции протеста там надо просто уведомить власти о месте планируемого проведения акции и ее ожидаемой численности. Запретить акцию власти по закону не имеют права. Именно поэтому российская оппозиция может проводить согласованные с властями акции протеста. И в минувшую субботу она особо подчеркивала, что готова идти на выполнение всех требований власти, в том числе на перенос места проведения акции, чтобы не подставлять народ под дубинки ОМОНа.

**2.Принципиально отличается личное отношение белорусского и российских руководителей к праву граждан на проведение акций протеста.**

Тех, кто выходит на акции протеста, Александр Лукашенко, как правило, называет «экстремистами», «врагами народа», «пятой колонной» и приказывает пресекать их акции очень жестко. Так, он признался, что лично руководил беспрецедентно жестоким разгоном акции протеста 19 декабря прошлого года.

В ноябре уже этого года на Гожском полигоне Лукашенко дал прямое указание: *«Министерству внутренних дел -- пресекать деятельность экстремистских лиц. Министр внутренних дел должен забыть: прилично, неприлично, как о нас подумают. Необходимо жестко реагировать на любые действия. Главное -- обеспечить порядок в стране».*

Принципиально иная позиция у российских руководителей. После многотысячной акции на Болотной площади президент РФ Дмитрий Медведев написал в своем блоге: *«По Конституции граждане России имеют свободу слова и свободу собраний. Люди имеют право высказывать свою позицию, что они вчера и сделали. Хорошо, что все прошло в рамках закона. Я не согласен ни с лозунгами, ни с заявлениями, прозвучавшими на митингах. Тем не менее мною было дано поручение проверить все сообщения с избирательных участков, касающиеся соблюдения законодательства о выборах».*

**3.Белорусская милиция и российская полиция продемонстрировали принципиальное различие понимания своей роли в обществе.**

Белорусская милиция, как показывает опыт, присутствует на акциях оппозиции для устрашения, запугивания, жестокого подавления и разгона. Таким образом, милиция противопоставлена той части общества, которая не поддерживает власть.

Руководство российской полиции на самой масштабной акции оппозиции последних 20 лет, наоборот, демонстрировало, что люди в форме не противостоят народу, какой бы политической точки зрения он ни придерживался. Милиционеры, которые работали на акции, в подавляющем большинстве были без специальной экипировки, бойцов спецподразделений заставили поднять защитные щитки своих шлемов, открыть лица, показать глаза. Как свидетельствует главный редактор радиостанции «Эхо Москвы» Алексей Венедиктов, который одновременно является членом общественного совета при ГУВД Москвы, это было сделано по специальному приказу руководителя московской полиции с той целью, чтобы не накалять ситуацию, не разжигать вражду между протестующими и людьми в погонах.

Множество фото- и видеокадров свидетельствует, что у многих полицейских в петлицах были белые цветы или ленточки -- символы мирного протеста, которыми с ними делились участники акции несогласных. В интернете размещены сотни, если не тысячи, свидетельств, что полиция вела себя очень корректно, очень дружелюбно, что не дикими, полными ненависти глазами стражи порядка смотрели на пришедших протестовать, а общались с ними спокойно и вежливо. Как результат -- ни одного задержанного в ходе или после многотысячной акции. Ни одного серьезного происшествия. Всем своим поведением российская полиция подчеркивала: «Мы не цепные псы». Поведение их белорусских коллег в этой связи не поддается ни логике, ни объяснению.

**4.В Беларуси и России принципиально разная ситуация со средствами массовой информации.**

Об акциях протеста, планах оппозиции, претензиях к власти и т.п. в России рассказывают многие СМИ. Да, это не ведущие телеканалы. И тем не менее это радиостанции «Эхо Москвы», «Коммерсант FM» и другие, которые вещают в эфире абсолютно легально. Это телеканалы «Рен-ТВ», «Дождь», RTVi, на которых широко представлена альтернативная точка зрения. Это по-прежнему множество газет и журналов. В Беларуси ничего подобного давно нет.

К сожалению, приходится говорить и о том, что не только профессиональные, но и человеческие качества «лиц каналов» в Беларуси и России сильно отличаются. В день проведения акции протеста стало известно, что без сюжетов с Болотной площади отказался выйти в эфир ведущий НТВ Алексей Пивоваров. Уже известно, что руководители Первого канала и РТР все дни после выборов активно убеждали Кремль в необходимости давать нейтральные сюжеты об акциях протеста и в том, что в противном случае можно спровоцировать в обществе еще большую волну ненависти и недовольства. Надо понимать, они все-таки смогли убедить Владимира Путина в правоте своей точки зрения: сюжеты российских телеканалов об акции оппозиции были спокойными, более-менее объективными и нейтральными.

Кто в Беларуси сможет убедить Александра Лукашенко в том, что нельзя разжигать вражду в одном народе на том лишь основании, что протестуют люди, которые придерживаются иных политических взглядов? Кто из белорусских телеведущих способен предъявить ультиматум и потребовать объективного освещения новостей в эфире, даже если новости связаны с оппозицией?

**5.Мысль, не закатанная в асфальт.**

На московской акции протеста присутствовали и выступали не только оппозиционные политики, но и люди, наделенные официальными полномочиями. Например, полковник ФСБ Геннадий Гудков, депутат Госдумы от партии «Справедливая Россия», призвал всех коллег в знак протеста сдать депутатские мандаты. Уполномоченный по правам человека при президенте России, демократ с большой биографией Владимир Лукин наблюдал, чтобы, с одной стороны, полиция действовала строго в рамках своих полномочий, а с другой -- чтобы организаторы акции четко выполняли требования полиции и не провоцировали беспорядки. Это говорит о том, что при всех известных издержках в России все-таки не задушено гражданское общество, не задушены альтернативные точки зрения до той степени, до какой это сделано в Беларуси. **Российское руководство в отличие от белорусского все-таки понимает, что в обществе должно быть место для дискуссии, и создает для этого различные легальные структуры.** Президент России приближает к себе и дает возможность работать людям, которые могут высказывать точки зрения, отличные от официальных, доносить до первых лиц страны альтернативную информацию. Видимо, в руководстве России понимают, что путь государственного беспредела -- это прямой путь к революции. А акции протеста, предоставление гражданам возможности реализовать свои законные права, в том числе требовать и добиваться честных выборов, -- это, наоборот, уход от конфликта, конфронтации и крови.

*О чем, интересно, думали белорусские вожди, глядя на происходящее в Москве? Видимо, о том, какие слабаки Медведев и Путин, как они не смогли отдать команду спецназу действовать решительно и жестко, невзирая на приличия…*

**Светлана Калинкина, "Народная воля".**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# ЖЫЦЦЁ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

## У ЦКАВАННІ АНДРЭЯ САННІКАВА І ЗМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА ЎЛАДЫ ПЕРАЙШЛІ ЎСЕ МАГЧЫМЫЯ МАРАЛЬНЫЯ МЕЖЫ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

**Заява, Мінск 13.12.2011 г.**

11 снежня 2011 г. у нядзельным выпуску праграмы "В центре внимания" на тэлеканала "Беларусь-1" быў прадэманстраваны правакацыйны сюжэт пра вязняў сумлення – былога кандыдата Андрэя Саннікава і лідэра моладзевай арганізацыі "Малады Фронт" Зміцера Дашкевіча.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што дэманстрацыя падобнага кшталту відэаматэрыялаў на дзяржаўным тэлеканале ў чарговы раз падкрэсліла палітычную матывацыю іх пераследу.

Прадэманстраваны сюжэт з'яўляецца адным са звенняў ланцуга правакацыяў, арганізаваных спецслужбамі Беларусі ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча, галоўнай задачай якіх з'яўляецца аказанне маральнага ціску, дыскрэдытацыя, стварэнне рэальных пагрозаў для іх жыцця і здароўя падчас знаходжання ў месцах пазбаўлення волі.

Дадзены сюжэт сведчыць, што ў арганізаванай кампаніі па цкаванні А.Саннікава, З. Дашкевіча, членаў іх сем'яў улады Беларусі гатовы перайсці ўсе магчымыя маральныя межы. Дэманстрацыя падобнага відэаматэрыялу сведчыць аб поўнай прафесійнай і чалавечай дэградацыі кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, непасрэднага кіраўніка тэлеканалу "Беларусь-1" і асобаў, якія рыхтавалі сюжэт да эфіру.

Беларускія ўлады, МУС, адміністрацыя папраўчых установаў, у якіх знаходзяцца А. Саннікаў і З. Дашкевіч, нясуць непасрэдную і поўную адказнасць за далейшы лёс, жыццё і здароўе асуджаных вязняў. Праваабарончы цэнтр "Вясна" ў чарговы раз заклікае улады Беларусі:

- спыніць усялякія правакацыйныя дзеянні ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча;
- неакладна дапусціць да асуджаных адвакатаў і блізкіх сваякоў;
- неадкладна і безумоўна вызваліць усіх вязняў сумлення і палітычных зняволеных, якія дагэтуль знаходзяцца ў турмах Беларусі.

**http://spring96.org/be/news/48220**

**Ад рэдакцыі:** Напярэдадні Каляд і Новага году абвешчана акцыя салідарнасці з палітвязнямі Беларусі. Ініцыятары заклікаюць небыякавых грамадзян накіроўваць паштоўкі да палітвязняў з віншаваннямі. Давайце падтрымае грамадзян, якія змагаюцца за нашу і вашу свабоду! Накіруем паштоўкі па наступных адрасах. Рэдакцыя гатова прадаставіць слова неабыякавым грамадзянам аб удзеле ў акцыі.

**Чытач! Напішы віншаванне палітвязням**

**Алесь Бяляцкі** -- 222160, Менская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма № 8

**АСУДЖАНЫЯ ЗА ПАДЗЕІ 19 СЬНЕЖНЯ**

Адбываюць пакаранне:

**Андрэй Саннікаў** -- 211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія №3

**Зміцер Бандарэнка** -- 213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Эдуард Лобаў** -- 225295 Брэцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20

папраўчая калонія № 22

**Мікола Статкевіч** -- 213004 Магілёўская вобл., г. Шклоў выпраўленчая калонія № 17

**Зміцер Дашкевіч** -- 211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205

папраўчая калонія № 13

**Павал Севярынец** -- 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

**АСУДЖАНЫЯ ПА «СПРАВЕ АНАРХІСТАЎ»**

**Мікалай Дзядок** -- 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Аляксандр Францкевіч**-- 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / я 20

папраўчая калонія № 22

**Ігар Аліневіч** -- 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8

папраўчая калонія № 10

**АСУДЖАНЫЯ ЗА НАПАД НА БАБРУЙСКАЕ КДБ:**

**Яўген Васьковіч** -- 212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а турма № 4

**Арцём Пракапенка** -- 213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК-17, атрад №15

**Павал Сырамолатаў** -- 213030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3 км, ПК №19

**ТАКСАМА**

**Мікалай Аўтуховіч** -- 225293, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы-3, ПК-5, атрад 13.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), +375(33)6969347 (МТС)

**Падпісана да друку 15.12.2011 у 17.40.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.